Да 75-годдзя з дня нараджэння А. Я. Туранкова

# АДЗІН З ПІЯНЕРАЎ БЕЛАРУСКАЙ МУЗЫКІ

Аляксей Яўлампіевіч Туранкоў — адзін з плеяды першых беларускіх кампазітараў, якія многа і плённа папрацавалі над стварэннем нашай нацыянальнай прафесіянальнай музыкі.

Туранкоў пакінуў пасля сябе багатую музычную спадчыну. Ён даў прыклады многіх музычных жанраў—ад опер «Кветка шчасця» і «Яснае світанне» да дзіцячых песень.

Характэрная рыса творчасці Туранкова — яе народнасць, яснасць меладыйнай мовы, шчырасць пачуццяў. Яго музыка заўсёды даходзіць да сэрца слухача. Яе любяць выканаўцы, як салісты, так і творчыя калектывы, яе любіць працоўны народ.

Гэтаму кампазітару была даступна ўся глыбіня народнай песнятворчасці. Ён, як ніхто іншы, умеў заглянуць у бяздонныя крыніцы беларускага народнага меласу, чэрпаючы адтуль натхненне пры стварэнні вялікіх і малых твораў.



А. Я. ТУРАНКОЎ.

Туранкоў зрабіў многа апрацовак беларускіх народных песень для салістаў і хору. У свой час А. Багатыроў і я пачалі разбіраць музычную спадчыну Аляксея Яўлампіевіча. З гэтай спадчыны былі рэкамендаваны для друку 18 апрацовак народных песень для аднаго голасу і 11 для дуэта з суправаджэннем фартэпіяна. Гэтыя, вельмі патрэбныя для нашых прафесіяналаў і самадзейных артыстаў, цудоўныя ўзоры музычнага фальклору, відаць, заляжаліся недзе ў Саюзе кампазітараў або ў Міністэрстве культуры. Пасля гэтага беспадстаўнымі здаюцца закіды салістам, асабліва самадзейным, што яны не маюць беларускага рэпертуару.

Мною таксама разгледжана некалькі дзесяткаў хораў і харавых апрацовак Туранкова. Усе арыгінальныя хоры, напісаныя на словы сучасных беларускіх паэтаў і класікаў беларускай і рускай паэзіі, бясспрэчна, неацэнны ўклад у харавую культуру нашага народа. Цікавая паліфанічная распрацоўка і беззаганнае голасавядзенне гэтых твораў сведчаць аб таленавітасці кампазітара. Звыш пяцідзесяці яго рамансаў і песень, разгледжаных мною, таксама маюць вялікую мастацкую вартасць.

Часам можна пачуць па Беларускаму радыё інструментальныя творы Туранкова, але яны не надрукаваны і таму пакуль што не могуць быць выкарыстаны вучнямі музычных школ, студэнтамі вучылішчаў, кансерваторыі і салістамі-інструменталістамі.

Сярод вялікай колькасці музычных твораў (звыш 600) у Туранкова ёсць і дзіцячыя хоры, напісаныя з суправаджэннем струннага аркестра, аб якіх нашы музычныя школы наўрад ці ведаюць.

Споўнілася 75 год з дня нараджэння А. Туранкова. Ён ужо некалькі год спачывае вечным сном. Пасмертнае выданне яго твораў будзе лепшым вянком славы для ўшанавання памяці піянера станаўлення беларускай музычнай культуры.

**Р. ШЫРМА,**
**народны артыст СССР.**

# ТЫ, ЗЯЛЁНАЯ ДУБРАВА

*(ДЛЯ ХОРУ)*

Словы Я. КУПАЛЫ. Музыка А. ТУРАНКОВА.




1. Ты, зялёная дубрава,
Сон скідай, расцвітай
І шумеці добрай славай
Не кідай на ўвесь край.
Гамані, расходзься шумам
Ад мяжы да мяжы,
Ўлі надзею вольным думам, } 2 разы
Аб усім раскажы.

2. Казку быўшых песняспеваў
Распалі, разагрэй,
Размяці управа, ўлева
Сухацвет, сухавей.
Маладыя загаворы
Ў ход пусці, сатвары,
Яснаглядам долы, горы } 2 разы
Асвяці, прыбяры.

3. Кінь разгонна весці свету
Аб сабе, аб сяўбе
І да неба вестку гэту
Данясі у кляцьбе.
Гамані, расходзься шумам
Ад мяжы да мяжы,
Ўлі надзею вольным думам, } 2 разы
Аб усім раскажы.

# Знойдзены рукапісы Я. Купалы

(ЛІСТ З МАСКВЫ)

Некалькі гадоў таму назад сцэнарыст Г. Дурман-Ранеўскі сказаў мне, што ў яго архіве павінны быць аўтографы Янкі Купалы. Аднак адшукаць іх адразу ён не мог.

І вось, пераглядаючы свой архіў у канцы мінулага года, Г. Дурман-Ранеўскі, нарэшце, знайшоў папку рукапісаў і газетных артыкулаў, якія ён захоўваў на працягу амаль дваццаці гадоў, з часоў яго працы ў рэдакцыі «Учительской газеты».

Сваю знаходку Г. Дурман-Ранеўскі паказаў мне. Сярод рукапісаў іншых аўтараў аказаліся: адозва народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа «Беларускаму народу»— гарачы заклік выдатных паэтаў да змагання з гітлераўскімі захопнікамі, рукапісы артыкулаў Янкі Купалы «Беларускі народ не пойдзе ў рабства» і «Клянёмся знішчыць ворага», у якіх паэт прыводзіць рад фактаў гераічнай барацьбы беларускага народа з фашысцкімі акупантамі і заклікае народ да змагання за родную Савецкую Беларусь. Адзін з артыкулаў мае аўтограф паэта і дату напісання — 12 верасня 1941 года. Захаваліся і гранкі «Учительской газеты» з артыкулам «Беларускі народ не пойдзе ў рабства».

В. Дурман-Ранеўскі перадаў мне гэтыя каштоўныя матэрыялы для накіравання іх у дар Літаратурнаму музею Янкі Купалы.

Рукапісы, безумоўна, зацікавяць літаратуразнаўцаў, гісторыкаў і выкладчыкаў беларускай літаратуры.

У самы бліжэйшы час наведвальнікі Літаратурнага музея Янкі Купалы ўбачаць гэтыя рукапісы ў музеі.

Яны сведчаць аб выдатнай грамадскай дзейнасці Янкі Купалы ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

**Іларыён БАРАШКА.**

## На раённай сцэне

Для працоўных раённага цэнтра Пухавічы Беларуская дзяржаўная філармонія наладзіла канцэрт салістаў—заслужанага артыста БССР, лаўрэата Усесаюзнага конкурсу музыкантаў-выканаўцаў цымбаліста А. Астрамецкага і спевака Д. Зубрыча.

У праграму канцэрта былі ўключаны творы Ул. Алоўнікава, Д. Камінскага, Я. Цікоцкага, А. Хачатурана, П. Чайкоўскага, П. Сарасатэ, Ф. Ліста і іншых рускіх і зарубежных аўтараў.

У канцэрце прынялі ўдзел артысты А. Надзіна (мастацкае чытанне) і А. Стэрлін.

У бліжэйшы час канцэрты А. Астрамецкага і Д. Зубрыча будуць праведзены ў абласных і раённых цэнтрах рэспублікі.

КІНААГЛЯД

# ЗМЯСТОЎНА, ЦІКАВА

На экраны краіны выходзіць усё больш фільмаў аб жыцці і працы савецкіх людзей. Яны пастаўлены вопытнымі майстрамі, якія стварылі дзесяткі добрых фільмаў, і творчай моладдзю—кінематаграфістамі, якія робяць першыя крокі ў мастацтве.

Карціны, створаныя ў апошні час маладымі сцэнарыстамі, рэжысёрамі, аператарамі, акцёрамі, нягледзячы на асобныя недахопы, цёпла сустрэты гледачамі.

## *Першыя крокі*

У мінулым годзе на XII Міжнародным кінафестывалі ў Карлавых Варах (Чэхаславакія) фільму літоўскіх кінематаграфістаў «Жывыя героі» прысуджана Галоўная прэмія. Гэтаму нельга не радавацца. Літоўскае кіно робіць першыя крокі, але гэта не крокі дзіцяці, нясмелыя і няўпэўненыя; гэта цвёрды поступ маладых кінематаграфістаў. Яны могуць яшчэ не раз парадаваць яркімі, жыццёва праўдзівымі і самабытнымі творамі пра кіпучае шматграннае жыццё літоўскага народа.

Фільм «Жывыя героі» трохі незвычайны па кампазіцыі. Ён складаецца з чатырох кінанавел — закончаных твораў, аб'яднаных тэмай маленства, якое не павінна быць засмучана ні цяжкай непасільнай працай з-за кавалка хлеба, ні жахамі вайны, ні страхам перад будучыняй. Маленства павінна быць шчаслівым, — сцвярджае фільм.

Дзеянне першай навелы «Нам не трэба» (аўтар сцэнарыя і рэжысёр М. Гедрыс) адбываецца ва ўмовах буржуазнага рэжыму ў Літве. Твор расказвае пра тое, як кулак купляе пастушка. Аўтар дакладна раскрывае характары герояў, іх унутраны свет. Вось мы бачым на экране веснавы халодны дзень, размытую дажджамі гразкую дарогу. Вясна! Але гэта вясна без сонца, без радасці. Бо хлопчыку прадстаіць цяжкая праца батрака на кулацкай сядзібе. Павольна расказваюць аўтары навелы пра тую беспрасветную нястачу, у якой жылі сяляне старой Літвы.

У гэтым праўдзівым апавяданні многа цікавых рэжысёрскіх і аператарскіх знаходак, хвалюючых кадраў, але навеле не хапае кампактнасці. Яна перагружана лішнімі сцэнамі і зацягнута ў канцы.

Натуральнасць і прастата апавядання характэрны для другой навелы «Салавейка» (сцэнарый В. Жалакявічуса, рэжысёр Б. Браткаукас). З любоўю да маленькага героя, без сентыментальнасці і замілавання расказваюць аўтары, як хлопчык завёў фашысцкі карны атрад у лес, дзе яго чакала партызанская засада.

У навеле выразна відаць індывідуальны почырк аўтараў. Яны ўмела карыстаюцца кінематаграфічнай дэталлю. У фільме паказана мужнасць хлопчыка, але яго гераізм не перавялічаны, і ў гэтым адна з вартасцей навелы «Салавейка». Мы бачым хлопчыка, які спакойна вядзе страшную і небяспечную гульню са смерцю. У той жа час на экране—лірычны пейзаж велічнай прыроды. Нямецкі атрад сярод гэтай прыгажосці бездапаможны. Псуе задушэўную простую навелу толькі тое, што ворагі ў ёй паказаны шаблонна, прымітыўна.

Бадай самая лепшая ў фільме навела «Апошні выстрал» (сцэнарыст Г. Шаблявічус, рэжысёр А. Жэбрунас)—лірычная і палымяная легенда пра дзяўчынку, якая загінула ад кулі бандыта.

Палымяна, паэтычна выказваюць пастаноўшчыкі навелы нянавісць да бессэнсоўнай жорсткасці. І ў гэтым вялікая заслуга таленавітага аператара Ю. Грыцюса. У яго працы адчуваюцца пошукі найбольш яркай формы для выражэння тэмы і ідэі твора. Гэтыя пошукі амаль заўсёды паспяховыя. Цудоўныя пейзажы, поўныя радасці і святла кадры на рацэ і змрочныя сцэны бункера, у якім хаваецца бандыт. Выкарыстоўваючы прыём кантраста, аператар падкрэслівае вяртанне радасці і шчасця ў разбураны вайною край і адыход у нябыт варожых сіл.

Найбольш слабая ў фільме апошняя, чацвёртая, навела «Жывыя героі» рэжысёра В. Жалакявічуса. Ён імкнецца паказаць шчаслівае маленства, расказаць пра радасць працы і гераізм будняў вялікіх будоўляў. Але не ўсё ўдалося пастаноўшчыку. Навела пазбаўлена сапраўдных характараў. Мы не ведаем, чаму кранаўшчык з'яўляецца героем, прыклад з якога павінны пераймаць хлопчыкі, у чым убачылі дзеці гераізм сённяшніх дзён, як ствараецца рамантыка? Да таго ж вобразы дзяцей у фільме не нясуць драматургічнай нагрузкі. Гэта толькі пасіўныя назіральнікі падзей.

Фільм «Жывыя героі», створаны чатырма рэжысёрамі, для якіх гэтая пастаноўка з'явілася першай самастойнай працай, сведчыць аб вялікім творчым росце маладых літоўскіх кінематаграфістаў; яны парадавалі гледачоў разумнай, усхваляванай, паэтычнай карцінай.

## *Цень учарашняга*

Цяжка ў нашы дні нават паверыць, што праз старую дошку, размаляваную нейкім багамазам, савецкі хлопчык—піянер ледзь не стаў ахвярай ваяўнічых рэлігійных цемрашалаў. Але так было. Рэлігійны фанатызм яшчэ ачмурае галовы многіх веруючых.

Здавалася б у наш век, калі савецкія спадарожнікі і ракеты лётаюць у небе, прысылаючы з космасу ўсё новыя і новыя весткі аб будове Сусвету, раскрываючы яго тайны, такія разуменні, як «бог», «той свет», павінны былі б гучаць анахранізмам. Але рэлігійная атрута стойкая. Дзіўна, што ў апошнія гады дзеячы савецкай літаратуры і мастацтва забыліся на атэістычную тэму, лічачы, відаць, што яна адыйшла ў нябыт. Забыліся пра антырэлігійныя фільмы і кінематаграфісты, якія некалі стварылі такія цікавыя творы, як «Свята святога Іяргена», «Цудатворац» і інш. А між тым царква і дзесяткі розных рэлігійных сект, асабліва пасля вайны, з дапамогаю заакіянскіх цемрашалаў актывізавалі сваю дзейнасць. Таму непрымірымая барацьба з цемрашальствам і невуцтвам становіцца надзённай задачай дзеячоў савецкай культуры.

У апошні час на нашы экраны выйшаў рад атэістычных кароткаметражных фільмаў і вялікая цікавая карціна «Іванна», якая зрывае маску з главароў грэка-каталіцкай царквы. Гэтыя фільмы шчыра былі сустрэты гледачом. Працягваючы развенчваць царкоўнікаў-цемрашалаў, кінастудыя «Масфільм» стварыла карціну «Цудадзейная» па аднайменнай аповесці Уладзіміра Цендракова. Актуальнасць твора пераацаніць цяжка. Рэжысёр Ул. Скуйбін паставіў перад сабою задачу—стварыць фільм, які перадаў бы ідэю твора. Аповесць Ул. Цендракова цяжкая для экранізацыі. У ёй няма выйгрышных кінематаграфічных сітуацый: пагонь, боек, любоўных сюжэтных ліній і г. д. Апавяданне ў аповесці развіваецца непаспешліва, спакойна. Пры экранізацыі лёгка можна было збіцца на дыдактыку і рытарычнасць. На шчасце, гэтага не здарылася. Фільм атрымаўся дынамічны, вострадраматычны, без плакатнасці і агіткі.

Карціна распадаецца на асобныя часткі—пралог, зняты ў манеры лепшых палотнаў рускіх жывапісцаў. Светлае жыццё нашай дзяржавы ў ім паказана сакавіта і ярка, а цемрашальства і невуцтва—рэзка, у кантрасна-цёмных тонах трывожнага, мільгаючага святла. Такое выяўленчае вырашэнне фільма абумоўлена сюжэтам аповесці.

Выяўленчая культура—адзін з мацнейшых бакоў фільма «Цудадзейная». Аператар П. Сатуноўскі, майстра рускага пейзажу, паказаў у фільме новы бок свайго таленту—ён добра і пераканальна зняў партрэты асноўных і другарадных персанажаў карціны. Але, на жаль, пастаноўшчык Уладзімір Скуйбін, забываючыся пра пластычнае жывапіснае вырашэнне фільма, часам празмерна замаруджвае ўнутрыкадравае дзеянне, што часта стрымлівае развіццё сюжэта.

Акцёры, якія здымаюцца ў фільме, за малым выключэннем, ствараюць яркія і цікавыя па вонкаваму малюнку і ўнутранай напоўненасці вобразы. Гэта ў першую чаргу А. Паўлычава, якая выконвае ролю фанатычнай ізуверкі бабкі Аўдоцці. Артыстка валодае незвычайнай выразнасцю жэсту і вялікай праўдай у паказе пачуццяў гераіні. Аўдоцця не ціхая багамолка, якая пакорліва моліцца богу і просіць у яго заступніцтва. Гэта дэспатычная ваяўнічая цемрашалка. Яна гатова зламаць любога, хто стане поперак яе шляху.

Школьнік Валодзя Васільеў магчыма недастаткова ўмела, але з вялікай шчырасцю і цеплынёй сыграў ролю піянера Родзькі Гуляева, якога рэлігійныя фанатыкі выбралі другім «Панцеляймонам-праведнікам».

Дакладна і па-новаму іграе артыст В. Пакроўскі папа. У маленькай ролі ён здолеў паказаць хітрага і злоснага цемрашала, які пад маскай дабраты хавае твар фанатычнага ізувера.

У фільме «Цудадзейная» малады рэжысёр Уладзімір Скуйбін паказаў сябе не толькі як майстра-пастаноўшчык, што валодае агульнай кампазіцыяй фільма, але і таленавітым рэжысёрам-педагогам. Дзякуючы гэтаму ў карціне ёсць ансамбль.

## *Паказвае «Беларусьфільм»*

Шмат спрэчак выклікаў фільм «Наперадзе—круты паварот», пастаўлены на студыі «Беларусьфільм» маладым рэжысёрам Р. Віктаравым па сцэнарыю А. Маўзона. Думкі гледачоў і крытыкаў аб новай працы беларускіх кінематаграфістаў рэзка разыйшліся. Адны лічаць «Наперадзе—круты паварот» карцінай добрай, другія—дрэннай, шэрай, сумнай. Ужо адно тое, што фільм выклікаў спрэчку, сведчыць, што ён вылучаецца сярод бяздушных, штампаваных фільмаў, якія яшчэ нярэдка выходзяць на нашы экраны.

...На шашы машынаю была збіта жанчына, якая потым памерла. Пачалося следства. Шукалі віноўніка катастрофы.

Але не гэты крымінальна-прыгодніцкі сюжэт хвалюе гледача. Хвалюе іншае—адносіны чалавека да чалавека. Фільм, нягледзячы на дэтэктыўны сюжэт, трактуе маральна-этычныя пытанні. Ён гаворыць пра чуласць і ўвагу да чалавека, заклікае не быць абыякавым да людскога няшчасця, не праходзіць міма бяды.

Сюжэт сцэнарыя дазволіў пастаноўшчыку і акцёрам стварыць вобразы сумленных, праўдзівых людзей. Яны будуюць асноўны канфлікт на проціпастаўленні характараў герояў фільма—Андрэя і Пятра. Гэта зусім розныя людзі з рознымі поглядамі на жыццё. Андрэй сапраўды незнарок збіў Снігірову. Артыст Л. Круглы паказвае, што яго герой не застаецца абыякавым да здарэння на шашы. Ён глыбока перажывае драму і ў выніку сам прыходзіць да следчага і заяўляе, што гэта ён збіў жанчыну. Л. Круглы ў ролі Андрэя выдатна выкарыстоўвае дадзены яму аўтарам сцэнарыя матэрыял. Артыст увасабляе намечаны драматургам псіхалагічны малюнак вобраза.

Эгаізм і палахлівасць Пятра, маладога інжынера, які з-за дробязных разлікаў не дапамог Снігіровай, падкрэслівае артыст Ю. Дзядовіч. Пётр па-сутнасці—нікчэмнасць. І рэжысёр і артыст паказалі Пятра, нічога не перавялічваючы і нічога не змяншаючы.

У невялікіх адступленнях, якія з'яўляюцца нібы кароткімі псіхалагічнымі навеламі, пастаноўшчык імкнецца разабрацца ў пачуццях і псіхалогіі герояў. У гэтым яму дапамаглі акцёры. Яны стварылі вобразы людзей з рознымі поглядамі на жыццё, з рознымі адносінамі да драмы, якая адбываецца. Але тут жа варта папракнуць аўтараў у тым, што яны іншы раз збіваюцца на сентыментальнасць, карыстаюцца часам гатовымі штампамі. Гэта і выклікала розныя ацэнкі фільма гледачамі.

Спрэчным нам здаецца вобраз настаўніцы Ірыны ў выкананні С. Паўлавай. Па задуме сцэнарыста нявеста Пятра Ірына спалучае рэдкую прыгажосць з высакароднасцю і тонкасцю душы. Маладая артыстка С. Паўлава не здолела падкрэсліць іменна гэтыя асаблівасці гераіні. Яе Ірына вельмі сухая і разважлівая, ёй не хапае жывых чалавечых рыс, якія зрабілі б вобраз праўдзівым.

Хочацца адзначыць удалую працу маладога рэжысёра Р. Віктарава, для якога гэта карціна з'явілася першай самастойнай спробай у кіно.

**Т. КАНАПЛЁЎ.**

# Мы жывём на аўтазаводзе

### ТАМ, ДЗЕ БЫЛО ЧЫРВОНАЕ УРОЧЫШЧА

Расце, шырыцца і прыгажэе гарадок мінскіх аўтазаводцаў.

Здаецца, яшчэ нядаўна ў сасонніку ўзводзіліся карпусы завода, будаваліся першыя жылыя памяшканні — баракі, аднапавярховыя катэджы... А сёння люба глянуць на шырокія вуліцы, на велічныя гмахі новых прыгожых трох-, чатырох- і пяціпавярховых жылых дамоў. Колішняя далёкая мінская ўскраіна Чырвонае Урочышча — цяпер своеасаблівы «цэнтр», вакол якога выраслі новыя рабочыя пасёлкі: Паўночны, Паўднёвы, Маладзёжны.

Не так даўно сонна калыхаліся, паўзучы з гарадка аўтазаводцаў і ў гарадок, перагружаныя старэнькія трамвайныя вагоны. Мінуўшы пасёлак трактаразаводцаў, трамвай ішоў праз лес і палеткі, на якіх як нейкі анахранізм зелянела цераспалосіца «сотак». Цяпер на тым месцы, дзе яшчэ тры гады таму назад сеялі бульбу і жыта, выраслі новыя жылыя кварталы, карпусы пятага клінічнага гарадка, і аўтазаводскія вуліцы ўшчыльную зліліся з Заходнім пасёлкам... На Магілёўскай шашы, якая раздалася ўшыркі, у бясконцым патоку грузавых аўтамашын імчацца на завод тралейбусы, магутныя аўтобусы ЛАЗ'ы, неяк весялей і рухавей коцяцца і новыя вагоны трамваяў.

Гарадок расце, яшчэ хутчэй расце і павялічваецца яго насельніцтва, растуць бытавыя патрэбы аўтазаводцаў.

### ПРАДУКТОВЫЯ МАГАЗІНЫ

Найгоршае становішча з прадуктовымі магазінамі. Іх мала, яны маленькія і цесныя. У магазінах заўсёды паўнютка народу: вялікая чарга ў касу, шмат часу трэба стаяць, пакуль атрымаеш прадукты. Калі ў магазіне многа людзей, гэта добра, гэта выразны паказчык росту дабрабыту аўтазаводцаў. Дык чаму ж не лічацца з гэтым фактам гандлёвыя арганізацыі? За тры апошнія гады на аўтазаводскім пасёлку не адкрылася ні аднаго новага прадуктовага магазіна. Летні магазін для продажу гародніны, які адкрыўся восенню, можна не лічыць: ён ужо даўно закрыты.

У жніўні — верасні на рамонце быў адзіны на ўвесь гарадок гастраном № 25, а таксама булачная № 7, і тады ў астатнія магазіны нельга было ўбіцца, трэба было гадзінамі выстойваць у чарзе...

Увогуле тут гандлююць з сюрпрызамі. Прынеслі вы, скажам, здаваць бутэлькі з-пад малака ў гастраном № 25, а там іх не бяруць. Чаму? Вельмі проста: то рамонт у латку, то яшчэ якая прычына... Прыходзіцца ісці ў магазін № 30, станавіцца ў чаргу, дзе ідзе бойкі гандаль «прахладжальнымі» напіткамі Цэнтраспіртаўскага вырабу... Добра, калі гэта яшчэ не ў перадвыхадны ці выхадны дзень...

Праўда, у жыхароў пасёлка цяпер свята. Нарэшце, прадуктовыя магазіны працуюць да 23 гадзін вечара. Усё ж лета было так, калі пасля 21 гадзіны ёсць пільная патрэба купіць што-небудзь з прадуктаў, дык трэба было ехаць на Заходні пасёлак ці ў горад...

### 16 — НЕШЧАСЛІВАЯ ЛІЧБА

З аўтазавода зараз не цяжка трапіць на вакзал. Аднак граха таіць няма чаго: перабоі бываюць у рабоце тралейбуса і аўтобусаў.

Цяжэй дабрацца ў раён плошчы Перамогі ці на Паўночны пасёлак. Аўтазаводцы падсмейваюцца, што самай нешчаслівай лічбай з'яўляецца не традыцыйны чортаў тузін, а лічбы 22 і 16.

Калі раненька прыйдзеш і, крыху пачакаўшы, сядзеш на аўтобус, на шчытку якога стаіць лічба 16 і напісана «Аўтазавод — Тэатр оперы і балету», дык упэўненасці яшчэ няма, што паедзеш.

Сядзяць пасажыры, чакаюць, хвалююцца, сёй-той ужо драмаць пачынае, а кандуктара з шафёрам няма і няма. Вось пад'ехаў другі аўтобус шаснаццатага маршрута... Яшчэ прайшло пяць ці дзесяць хвілін... Нарэшце, паказваюцца доўгачаканыя шафёр з кандуктарам. Ідуць яны спакваля, спыняюцца, смяюцца, вырашаючы нейкія свае справы, нібы спецыяльна выпрабоўваюць нервы нецярплівых пасажыраў, і... заварачваюць да аўтобуса, які прыйшоў пазней. Пасажыры ўсхопліваюцца з наседжанага месца, ломяцца ў дзверы, каб паспець на другую машыну...

30 лістапада 1960 года, 11 гадзін 15 хвілін раніцы.

Тры аўтобусы з лічбай 16 на шчытку мірна стаяць збоку на «прыколе» — у шафёраў абед. Пасажыры сабраліся на прыпынку, непакояцца. Праходзіць дзесяць хвілін, дваццаць. Нехта нецярпліва стукае ў акенца дыспетчарскай. Адтуль высунуўся чырвоны, як памідор, твар здаравеннага дзецюка (з яго шырокімі плячыма быць малатабойцам!) і абыякава прамовіў:

— Чакайце! Абед!

Праходзіць яшчэ дзесяць хвілін, і з горада прыйшла машына ЖТ 38—07. Нарэшце, у 11 гадзін 45 хвілін гэты аўтобус, перапоўнены пасажырамі, рушыў з аўтазавода. Пасажыры сталі дапытвацца ў кандуктара, ці існуе для 16 маршрута які-небудзь графік і ці мала-мальскі ён выконваецца.

— Што гэта за пасажыры?! Хоць наморднік адзявай! — секанула кандуктар аўтобуса ЖТ 38—07 на справядлівыя нараканні.

### КРЫХУ АРЫФМЕТЫКІ

Калі раніцою спешна трэба трапіць на трактарны завод ці ў раён плошчы Перамогі, найбольш надзейна садзіцца на трамвай. Цяпер на аўтазавод трамвай ходзіць часта, хутка і без перабояў. Чэсць і хвала вам, таварышы трамвайшчыкі!

Хочацца толькі, каб кіраўніцтва трамвайнага ўпраўлення рашыла такую просценькую арыфметычную задачку:

Трамвайнае кальцо на аўтазаводзе мае дыяметр 100 метраў. Трамвайны прыпынак размешчан так, што кожны пасажыр двойчы ў дзень перасякае стомятроўку. Колькі лішніх кіламетраў робяць у год пасажыры, калі лічыць, што на кальцавым прыпынку садзіцца і сходзіць штодня 5000 чалавек?

Пакуль у трамвайным упраўленні і Мінскім гарсавеце будуць рашаць гэтую задачу, дамо нашым чытачам адказ. Пасажыры робяць лішніх ні многа, ні мала 365000 кіламетраў. Гэта значыць пакрываюць адлегласць амаль роўную адлегласці паміж Зямлёю і яе вечным спадарожнікам — Месяцам! Не шкадаваў рабочых ног той, хто праектаваў так кальцо!

Дадамо яшчэ і тое, што стомятроўка бывае з перашкодамі: вясною і ўвосень тут гразка, але гэта чамусьці нікога не турбуе...

### «МЫ НАРАДЗІЛІСЯ Ў АЎТАЗАВОДСКІМ ГАРАДКУ!»

Расце насельніцтва пасёлка перш за ўсё і больш за ўсё за лік новых грамадзян, якія маюць перад сваімі бацькамі адну вялікую перавагу і могуць з гордасцю сказаць:

— Мы нарадзіліся ў аўтазаводскім гарадку!

Пакуль падрастуць новыя жыхары і скажуць гэтыя словы, у іх бацькоў многа клопату. Уся справа ў тым, што на пасёлку вельмі і вельмі мала дзіцячых устаноў — садоў і яслей, і ўсе яны падначалены заўкому аўтазавода. Яшчэ паўбяды таму, хто працуе на аўтазаводзе, а як уладкаваць у яслі ці дзіцячы сад сына ці дачку таму, хто працуе ў іншых установах?

Старшыня Сталінскага райсавета дэпутатаў працоўных т. Ачапоўскі даў нам такія звесткі:

— На ўсёй тэрыторыі раёна ёсць толькі адзін дзіцячы сад, не падпарадкаваны ведамасным установам, і ніводных яслей. І ніводныя яслі пакуль што не будуюцца...

Таварышы з Мінскага гарсавета, падумайце над гэтым! У крыўдзе на вас самыя юныя грамадзяне аўтазаводскага гарадка!

### ВАДА ПА РАЦЭПТУ...

Не так даўно ў доме № 108 па Магілёўскай шашы разыгралася баталія. Прыйшлося выклікаць міліцыю.

Усё пачалося, як ні дзіўна, — з-за вады. Самай звычайнай вады, якая часам бывае, але часцей не бывае ў водаправодзе на трэцім і вышэйшых паверхах. На трэцім паверсе быў не закрыты кран, вада палілася на падлогу, працякла ў ніжнюю кватэру, і суседзі хапіліся загрудкі...

Не набраў раніцай запасу ў вёдры, значыць, днём будзеш без вады. А кожны ведае, што без вады і ні сюды і ні туды!

Начальнік жыллёва-камунальнага аддзела аўтазавода В. Васільеў суцяшае, што хутка вады будзе ўдосталь.

Паглядзім! Спадзяёмся!

### СЯРГЕЮ ГАРДЗЕЕВІЧУ НА ГАЛАВУ НЕ КАПАЕ...

Здараецца так, што будаўнікі здалі новы дом, пасяліліся там жыхары і бачаць: падлога рассохлася, дзверы не зачыняюцца, батарэі не грэюць...

А што казаць пра старыя будынкі?

Працякае ў доме № 108 па Магілёўскай шашы дах. Пайшоў жыхар з кватэры № 24 да старшага інжынера ЖКА аўтазавода С. Марозава, падаў адпаведную заяву.

Прайшоў тыдзень, два, месяц. Пачаліся дажджы, хочаш не хочаш прыйшлося зноў ісці да С. Марозава.

— Сяргей Гардзеевіч, калі ж будзе адрамантаваны дах? Прайшло месяц часу ўжо...

— Думаеце, у мяне адзін толькі дом... Вось паглядзіце, колькі трэба правіць... Добра, запішу і ваш дом у гэты спіс...

Прайшоў яшчэ месяц, але справа з месца не зрушылася...

Чаго там спяшацца, Сяргею Гардзеевічу на галаву не капае...

* * *

Партыя і савецкі ўрад аддаюць вялікую ўвагу бытавому абслугоўванню насельніцтва, будаўніцтву дзіцячых дашкольных устаноў, палепшанню работы і павелічэнню сеткі гандлёвых устаноў, рабоце транспарту. Многае, бясспрэчна, зроблена для забеспячэння патрэб жыхароў аўтазаводскага пасёлка. Аднак факт застаецца фактам: з ростам гарадка растуць патрэбы насельніцтва, а новыя прадуктовыя магазіны тут не адкрываюцца, не будуе гарсавет ні дзіцячых садоў, ні яслей, лепшага трэба жадаць у рабоце транспарту.

**С. АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# Працы народных умельцаў

Дваццаць тры кропкі на карце Беларускай ССР — гарады, пасёлкі, вёскі. Але гэта не толькі населеныя пункты. Гэта цэнтры шматлікіх мастацкіх промыслаў рэспублікі.

Вышыўка, разьба па дрэву, узорнае ткацтва, інкрустацыя каляровай саломкай, мастацкі роспіс, керамічная вытворчасць... Каля трох тысяч вышывальшчыц аб'ядноўваюць мастацкія арцелі гарадоў. На самых розных выстаўках нязменным поспехам карыстаюцца працы майстра разьбы і інкрустацыі па дрэву А. Шахновіча, усё большае развіццё атрымлівае ўзорнае ткацтва ў вёсках...

Аб гэтым расказваюць карта і тлумачальныя подпісы. Аб гэтым гавораць і самі творы выдатных умельцаў, прадстаўленыя на стэндах у Ленінградскім дзяржаўным музеі этнаграфіі народаў СССР, у новай вялікай экспазіцыі, прысвечанай сучаснаму народнаму мастацтву саюзных рэспублік, дзе прадстаўлены ўзоры асноўных мастацкіх промыслаў Беларусі.

Сапраўды ўнікальнай з'яўляецца шкатулка А. Шахновіча, інкруставаная пятнаццаццю рознымі пародамі дрэў, якая складаецца з 3 500 дэталей, з цэлым пейзажам і нацыянальным арнаментам. Або выкананы ім герб Беларускай ССР (інкрустацыя), яго разныя барэльефы, дэкаратыўныя блюды, цікавыя па задуме, па-мастацку выкананыя. А сюжэтная разьба па дрэву В. Мацюка? А бытавыя і дэкаратыўныя вырабы з карэльскай бярозы В. Ярэла?

Яны захапляюць. Таксама, як і шкатулкі, інкруставаныя каляровай саломкай (арцель імя XVIII партз'езду, Гомель) — круглыя, шасцігранныя, прамавугольныя, са складанымі арнаментамі, яркія па колеру. Таксама, як і 19 узораў бытавой і дэкаратыўнай керамікі (арцель імя Дзяржынскага, Івянец),—арнаментаваныя і ўпрыгожаныя рэльефнымі ўзорамі і роспісамі вазы, збаны, талеркі, сервізы.

Прыгожыя і поўныя своеасаблівасці расшытыя яркімі шматкаляровымі ўзорамі і нацыянальнымі арнаментамі шаўковыя блузкі і сарочкі (вырабы арцелей Мінска, Полацка, Гродна, Оршы і іншых гарадоў). Своеасаблівыя віды ўзорнага ткацтва — паясы і гальштукі (арцель імя 1 Мая, Слуцк), рушнікі (арцель імя 8 сакавіка, Віцебск), абрусы, пакрывалы (Гродзенская і Брэсцкая вобласці),

У новай экспазіцыі Ленінградскага музея прадстаўлена больш 70 прац умельцаў і майстроў Беларусі.

**В. НІКІЦІН.**

Ленінград.

# КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

Выдавецтва Акадэміі навук БССР выпусціла ў свет наступныя кнігі:

**Л. Якуніна.** Слуцкія паясы. 240 стар. Цана 2 руб. 25 кап. На беларускай і рускай мовах.

Кніга дае першы ў этнаграфічнай навуцы абагульнены матэрыял аб выдатнай з'яве ў гісторыі народнай творчасці беларускага народа — ткацтве слуцкіх паясоў. Аўтар паказвае іх месца сярод падобных вырабаў, якія вядомы ў іншых народаў. Выданне багата ілюстравана каляровымі здымкамі ўзораў слуцкіх паясоў, прыгожа аформлена.

**В. Бандарчык, І. Чыгрынаў.** Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі. Нарыс жыцця і дзейнасці. 104 стар. Цана 10 кап. На рускай мове.

Гэта — кароткі нарыс жыцця і творчасці выдатнага чалавека і вучонага-этнографа. У кнізе аналізуюцца важнейшыя яго навуковыя працы па матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа.

**Пытанні рэлігіі і атэізму.** 244 стар. Цана 46 кап. На беларускай мове.

Зборнік артыкулаў прысвечан пытанням гісторыі рэлігіі і атэізму на Беларусі. У ім даецца аналіз рэлігійных вераванняў, распаўсюджаных на Беларусі, з асвятленнем іх паходжання, дагматыкі, абрадавых асаблівасцей, класавай сутнасці і шкоднасці для справы будаўніцтва новага жыцця ў нашай краіне, а таксама паказваецца няўхільны рост атэістычных поглядаў сярод працоўных рэспублікі. Кніга разлічана на прапагандыстаў і агітатараў, а таксама на масавага чытача.

**Г. Аляксандраў, В. Горбач, В. Кавалгін.** Развіццё Ул. І. Леніным марксісцкага вучэння аб законах дыялектыкі. 202 стар. Цана 78 кап. На рускай мове.

Асвятляюцца погляды Ул. І. Леніна на матэрыялістычную дыялектыку як навуку, паказан яго ўклад у развіццё гэтай навукі. У кнізе раскрываецца палажэнне Ул. І. Леніна аб адзінстве дыялектыкі, логікі і тэорыі пазнання і ў сувязі з гэтым асвятляюцца пытанні значэння марксісцкай дыялектыкі.

**Развіццё беларускай сацыялістычнай культуры.** 236 стар. Цана 60 кап. На беларускай мове.

Кніга прысвечана распрацоўцы праблем узнікнення і развіцця беларускай сацыялістычнай культуры. У ёй выкладаецца марксісцка-ленінскі погляд на пытанне аб значэнні і месцы культуры ў грамадскім развіцці. Асаблівая ўвага аддаецца паказу ролі народа ў стварэнні матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, дадзена крытыка некаторых буржуазных тэорый аб паходжанні і ролі культуры.

